# „ПРАГРЭС“ ШУКАЕ ДЗЕЛАВЫХ ПАРТНЁРАЎ

## «Вашу мэблю мы бачылі ў ЗША»,

**— прыемна здзівіліся амерыканскія сенатары, якія пабывалі на калгасным сталярна-мэблевым прадпрыемстве. Праўда, госці думалі, што гэту прадукцыю выракляе славутая шведская фірма...**

Той, хто лічыць, што калгасам не варта захапляцца мэблевай вытворчасцю (не той, маўляў, профіль), няхай сустрэнецца з Уладзімірам Аляксеевічам Пракоп'евым. Некалькі гадоў назад ён, галоўны спецыяліст буйной мэблевай фабрыкі, атрымаў нечаканае запрашэнне ад старшыні «Прагрэса» А. Дубко пераехаць у Верцялішкі. Акрамя памяшкання для будучага прадпрыемства практычна нічога не было — ні абсталявання, ні кадраў. Ну, а сёння тут зарабляюць не толькі рублі — валюту.

Калектыў невялікі — 30 чалавек. Практычна ўсе яны — выхаванцы Пракоп'ева. Ён і кіраўнік, і канструктар, і механік. Яго жонка — Валянціна Мікалаеўна працуе на камп'ютэры, які пралічвае ўсе справаздачы і калькуляцыі. Вось і ўвесь інжынерна-тэхнічны персанал.

«Мы можам рабіць усё» — не палічыце нясціплымі гэтыя словы Валянціны Мікалаеўны. Прагрэсаўская прадукцыя і сапраўды вельмі разнастайная: інтэр'еры бытавых і службовых памяшканняў, сталы, крэслы, тумбы пад тэлевізар, карнізы... Робяць тут, дарэчы, і выдатную мэблю для кухні. Праўда, магчымасці для гэтага пакуль што абмежаваныя — не хапае вытворчых плошчаў, матэрыялаў.

На першым месцы для фабрыкі, зразумела, заказы сваёй гаспадаркі — калгаснікаў, школ, дзіцячых садоў. Але ва ўласных сценах не замыкаюцца. Летась, напрыклад, выйшлі і на замежны рынак. Здавалася б, дробязь — трымальнік для туалетнай паперы і зубных шчотак. Аднак вядомая шведская фірма закупіла іх ужо на 30 тысяч інвалютных рублёў. І гэта толькі пачатак. Аб попыце на прагрэсаўскія вырабы сведчыць той факт, што фірма рэалізуе трымальнікі не толькі ў сваёй краіне, але і за мяжой, у прыватнасці, у ЗША, што і заўважылі амерыканскія сенатары.

Цяпер шведы просяць Пракоп'ева пастаўляць панелі-вешалкі, гарантуючы іх паспяховы продаж. А яшчэ Уладзімір Аляксеевіч думае аб вытворчасці мяккай мэблі, аб больш глыбокай перапрацоўцы адходаў і нават звычайных дроў.

Шмат ездзяць на калгасную фабрыку, як кажуць, па вопыт.

— А аддачы практычна ніякай, — канстатуе Пракоп'еў. — Безумоўна, не кожная гаспадарка ў стане купіць такое высакакласнае абсталяванне, якое ёсць у нас (вытворчасці ФРГ і Аўстрыі), аднак стартаваць можна і з айчыннага. Было б жаданне. На жаль, многія спыняюцца на самым простым — продажы драўніны за мяжу. Прыбытак? Не, прамыя страты. Бо за рэчы, зробленыя з гэтай драўніны, можна атрымаць непараўнальна больш.

### Да ўвагі дзелавых людзей!

**Магутнасці унікальнага абсталявання прагрэсаўскіх мэбельшчыкаў выкарыстоўваюцца сёння толькі на 15—20 працэнтаў. Прычына — НЕДАХВАТ СЫРАВІНЫ. Таму прадпрыемства не супраць СКААПЕРАВАЦЬ НАМАГАННІ з тымі, хто, магчыма, мае гэту сыравіну, але не ведае, як яе выкарыстаць з максімальнай эфектыўнасцю. Прычым прагрэсаўцы згодны нават узяць на канчатковую дапрацоўку чарнавыя загатоўкі. Такім чынам можна разам з імі выйсці не толькі на айчынны, але і замежны рынак. Але адразу падкрэслім: у Пракоп'ева даволі ЖОРСТКІЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ЯКАСЦІ ДРАЎНІНЫ, ВІЛЬГОТНАСЦІ, АСАРТЫМЕНТУ. Не апошнюю ролю ў выбары дзелавых партнёраў будуць адыгрываць і аб'ёмы, стабільнасць паставак.**

**ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ І НА НАСТУПНАЕ. Таму, хто цікавіцца працэдурай выхаду на замежны рынак і хоча займець там партнёраў, Уладзімір Аляксеевіч Пракоп'еў выказаў згоду дапамагчы карыснымі парадамі.**



Такая мэбля, якую выпускае калгасны падсобны цэх, упрыгожыць любую кватэру.



У цэху перапрацоўкі садавіны. Тут выпускаюць безалкагольныя напіткі, сок і віно.

## «У нас нямала праблем»

**Так лічыць намеснік старшыні калгаса-камбіната па прамперапрацоўцы Пётр Міхайлавіч ПАНАСІК, нягледзячы на тое, што перапрацоўчай базе гаспадаркі можна толькі пазайздросціць.**

У «Прагрэсе» на месцы перапрацоўваюць мяса птушкі з уласнага птушкакомплексу, малако, садавіну, ёсць свая бойня і каўбасны цэх. Аб узроўні гэтай справы мяркуйце хоць бы па тым, што ўсе нехарчовыя адходы з цэха жывёлагадоўлі ідуць на вытворчасць мяса-касцявой высокабялковай мукі і зноў выкарыстоўваюцца ў якасці корму для птушкі.

На птушкакомплексе штогод атрымліваюць каля 2.400 тон мяса ў жывой вазе. У працаўнікоў нарміраваны рабочы дзень, два выхадныя на тыдні, зарплата 380—420 рублёў. Праўда, абсталяванне для вырошчвання куранят-бройлераў не назавеш дасканалым.

### Да ўвагі дзелавых людзей!

**Хто мог бы дапрацаваць КАРМУШКІ, ПАІЛКІ ДЛЯ ПТУШКІ, каб зрабіць іх больш зручнымі і эфектыўнымі! Магчыма, нехта выракляе новыя ўзоры гэтага абсталявання — у «Прагрэсе» гатовы стварыць належныя ўмовы для іх грунтоўных выпрабаванняў.**

**У калгасе-камбінаце хацелі б таксама мець ФІРМЕННАЕ АДЗЕННЕ І ЗРУЧНЫ АБУТАК для сваіх жывёлаводаў, абаротную тару для птушкі, пад каўбасы і яблыкі. Не дробязь і такое пытанне, як сучасная ўпакоўка прадукцыі. Цікава, у каго ёсць канкрэтныя прапановы па гэтых праблемах! Можна не сумнявацца, што «Прагрэс» ў даўгу не застанецца.**

**НА МАЛОЧНЫМ ПРАДПРЫЕМСТВЕ атрымліваюць смятанку, адгон, сухое абястлушчанае малако. Задача нумар адзін цяпер — сканцэнтраваць сілы на выпуску гатовай прадукцыі. Ці можа хто дапамагчы прагрэсаўцам з абсталяваннем па вытворчасці сыру, масла, з сучаснымі сепаратарамі, ахаладжальнікамі масла! Прычым вытворчыя плошчы дазваляюць ім прыняць узоры новага абсталявання на выпрабаванне, каб даць яму аб'ектыўную ацэнку.**

**А што датычыць КОРМАВЫТВОРЧАСЦІ, дык прагрэсаўцы былі б вельмі ўдзячныя за высокаэфектыўныя змяшальнікі, якія не парушалі б тэхналогіі сумесі, а таксама шматкампанентныя электронныя дазатары з выхадам на ЭВМ.**

**— Нас таксама цікавіць МІКРАЦЭХ ПА ВЫТВОРЧАСЦІ КРУП І МАКАРОННЫХ ВЫРАБАЎ у невялікай колькасці, — гаворыць П. Панасік. — Хто прапануе адпаведныя абсталяванне, тэхналогію!**



Рабочая каўбаснага цэха Галіна Паўлаўна МІНЬКО рыхтуе прадукцыю да адпраўкі спажыўцам.

*Візітная картка:*

## Ордэна Леніна аграпрамысловы калгас-камбінат «Прагрэс» Гродзенскага раёна

● **БУЙНЕЙШАЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ ГАСПАДАРКА мае 9.200 гектараў сельгасугоддзяў, у тым ліку ворыва — 5.286 гектараў. На ўнутрыгаспадарчым разліку працуюць 4 вытворчыя ўчасткі, 11 жывёлагадоўчых ферм і комплексаў (7 — буйной рагатай жывёлы, каняферма, казаферма, птушкакомплекс, зверагаспадарка), 8 падсобных прадпрыемстваў: па вытворчасці кармоў, будматэрыялаў, па перапрацоўцы садавіны, малака, птушкі, сталярна-мэблевае аб'яднанне...**

**У калгасе-камбінаце працуе 2.199 чалавек, у тым ліку непасрэдна ў сельскай гаспадарцы — 1.064.**

● ТЭХНІЧНЫ ПАРК гаспадаркі налічвае 212 трактараў, 32 збожжаўборачныя камбайны, 8 бульбаўборачных і 9 цукраўборачных камбайнаў, 217 аўтамабіляў.

● **АСНОЎНЫЯ СРОДКІ складаюць 69,4 мільёна рублёў. Уласных абаротных сродкаў — 13,1 мільёна.**

● Летась ЦЭХ РАСЛІНАВОДСТВА выканаў план вытворчасці на 116,4 працэнта.

У сярэднім з гектара ворыва атрымана 84,3 цэнтнера кармавых адзінак.

УРАДЖАЙНАСЦЬ збожжавых — 60,9, бульбы — 434, цукровых буракоў — 523 цэнтнеры.

ВАЛАВЫ ЗБОР склаў: збожжа — 16.757 тон, бульбы — 6.506 і цукровых буракоў — 22.021 тону. Ад рэалізацыі прадукцыі раслінаводства атрымана 5,5 мільёна рублёў, у тым ліку прыбытку — 3,1 мільёна.

● **План вытворчасці ЖЫВЁЛАГАДОЎЧАЙ ПРАДУКЦЫІ летась выкананы на 110,5 працэнта. На 100 гектараў сельгасугоддзяў атрымана 1.081 цэнтнер малака і 657,2 цэнтнера мяса. У сярэднім ад каровы надоена 4.533 кілаграмы малака. Валавая вытворчасць малака склала 9.972,3 тоны, а мяса — 5.234.**

● ВЫРУЧКА АД РЭАЛІЗАЦЫІ прадукцыі — 49,4 мільёна рублёў, у тым ліку чысты даход — 17 мільёнаў рублёў. СЯРЭДНЕМЕСЯЧНАЯ АПЛАТА працы калгасніка склала 359 рублёў.

● **За год уведзена БУДАЎНІЧЫХ АБ'ЕКТАЎ на суму больш як 5,4 мільёна рублёў. На балансе калгаса-камбіната 527 добраўпарадкаваных кватэр, 52 кватэры ў інтэрнатах, 129 дамоў сядзібнага тыпу, шмат аб'ектаў культурна-бытавога прызначэння. Агульны балансавы кошт жылля — 9,2 мільёна рублёў.**

## Ці варта аўчынка вырабу?

**«Можаце не сумнявацца. У калгаснай зверагаспадаркі вялікія перспектывы», — лічыць яе кіраўнік Алег Васільевіч КРЫВЕНЯ.**

Сёлета тут разлічваюць атрымаць 20 тысяч шкурак норкі, у тым ліку 15 тысяч — стандартнага цёмна-карычневага колеру, 4 тысячы — колеру сапфіра і 1 тысячу — дзікай французскай расфарбоўкі. У бліжэйшыя гады норкавы статак павялічыцца ў некалькі разоў, прычым акцэнт будзе зроблены на найбольш каштоўныя пароды гэтага пушнога звярка.

Прагрэсаўцы таксама маюць намер штогод атрымліваць 5 тысяч 400 шкурак лісіцы, 9.600 — пясца і 3 тысячы — собаля. Але і гэта не ўсё. Зараз у зверагаспадарцы рыхтуюцца прыняць плямістых аленяў. Вы спытаеце: навошта? Што за дзівацтва? Нагадваем: панты плямістага аленя выкарыстоўваюцца для атрымання пантакрыну — вельмі дэфіцытнага і каштоўнага лякарства.

Але вернемся да пушніны.

— Мы разумеем — гаворыць А. Крывеня, — што з яе трэба шыць гатовыя вырабы. Гэта сёння ў 4—5 разоў выгадней, чым гандляваць сыравінай. І тут паўстае далёка не дробязная праблема. У рэспубліцы, ды і наогул у краіне, нямала зверагаспадарак, аднак мы не падрыхтаваны да высакаякаснай перапрацоўкі пушніны. Усё гэта на ўзроўні саматужных промыслаў.

### Да ўвагі дзелавых людзей!

**ЗВЕРАГАСПАДАРКА аграпрамысловага калгаса-камбіната «Прагрэс» з вялікім задавальненнем удзельнічала б у супрацоўніцтве на дагаворных асновах або ў стварэнні СУМЕСНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА ПА ПЕРАПРАЦОЎЦЫ НОРКАВЫХ ШКУРАК, ПАШЫВУ З ІХ ГАТОВЫХ ВЫРАБАЎ. Той, у каго ёсць магчымасць і з'явіцца жаданне ўкласці ў гэту ідэю цвёрдую валюту, дапамагчы з набыццём абсталявання, тэхналогіі, хімікатаў, павінен ведаць: «Прагрэс» — салідны і ўплывовы партнёр. З ім выгадна мець справы.**

**— Вельмі ўдзячныя мы былі б і таму, — абяцае А. Крывеня, — хто сканструяваў бы і ўстанавіў у зверагаспадарцы АЎТАМАТЫЗАВАНУЮ СІСТЭМУ ПАЕННЯ ЖЫВЁЛЫ і выдалення гною. Пакуль што гэтыя аперацыі ў нас выконваюцца ўручную, што абыходзіцца, мякка кажучы, нятанна. Вельмі патрэбны нам і рыбны корм для пушных звяроў.**

**Нядаўна зверагаспадарка папоўнілася нетыповым для калгаса падраздзяленнем — СЛУЖБОВА-ПАЛЯЎНІЧЫМ САБАКАВОДСТВАМ. Ужо зараз тут маюць каўказскую аўчарку, рускага хорта, рускага рабога ганчака, рускага ганчака, эстонскага ганчака, усходнееўрапейскую лайку, ньюфаўндленда... Спецыялісты гадавальніка зацікаўлены ў наладжванні кантактаў са сваімі калегамі ў іншых рэгіёнах і спадзяюцца, што гэта супрацоўніцтва будзе ўзаемавыгадным.**

### Прапануем...

● тым, хто зацікаўлены ў сапрапелях, калгас-камбінат «Прагрэс» можа іх прадаць. Калі добрая цана, дык і за рублі.

### Хацелі б...

● адшукаць партнёра, які дапамог бы ўстанавіць сістэму ультрафіялетавага абпраменьвання для бактэрыцыднага абеззаражвання паветра на фермах.

● займець сувязі з конегадоўчымі прадпрыемствамі для паляпшэння эліты коней.

● прыняць на работу спецыялістаў па арганізацыі вытворчасці піва па замежнай тэхналогіі.

### Нашы ўмовы:

● забеспячэнне кватэрай ці асобным домам, высокая зарплата.

### З прапановамі звяртацца па адрасу:

**231751, БССР, Гродзенская вобласць, Гродзенскі раён, пасёлак Верцялішкі, калгас-камбінат «Прагрэс».**

**ТЭЛЕФОН 47-29-94; ТЭЛЕКС 194116 «Бутон» SU.**





Брыгадзір зверагаспадаркі Алена Уладзіміраўна ГАВАКА. У гэтых шматлікіх скрынках жыве «мяккае золата».

Выпуск падрыхтавалі спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН, Барыс ПРАКОПЧЫК, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (Фота).

